■ ПРОБЛЕМЫ ЭНЕРГЕТИКИ

# ЕСТЬ ЛИ ВЫХОД ИЗ ЭНЕРГЕТИЧЕСКОГО КРИЗИСА

Михаил ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».

*События последних месяцев показали, как хрупка и уязвима белорусская экономика, базирующаяся на энергоемком производстве без наличия в достаточном количестве собственных энергоресурсов. Известно, что 90% энергоносителей поставляется из России и только 10% потребностей республики покрывается за счет собственных ресурсов.*

*Эти же события еще раз подтвердили ошибочность нашего безразличия к успехам развитых государств в области энергосбережения и использования нетрадиционных и возобновляемых источников энергии.*

*Сегодня энергетическая проблема в республике резко обострилась и стала жизненно важной для нашего суверенного государства. Мы попросили ответить на некоторые вопросы доктора технических наук, директора научно-технического центра «Нетрадиционная энергетика и энергосбережения» АН Беларуси Василия ЕРМАШКЕВИЧА.*

**— Василий Никитович, сегодня республика оказалась в сложном положении: цены на энергоносители стремительно поднимаются до уровня мировых, а поставки нефтепродуктов и природного газа уменьшаются. Некоторые предприятия перешли на работу в одну смену или полностью остановлены. Нехватку энергоресурсов почувствовали жители республики. Создается впечатление, что мы оказались совершенно не готовыми к такой ситуации. Как Вы оцениваете сложившееся положение с энергообеспечением?**

— Прежде всего необходимо отметить, что топливно-энергетические ресурсы являются сердцевиной жизнедеятельности любого государства. Вопросы энергетики — это вопросы экономики, экологии, социально-политического устройства общества и государственности в целом. В связи с развитием промышленности, сельского хозяйства и других сфер деятельности человека выросла и потребность в топливе и электроэнергии: достаточно сказать, что за последние 50 лет общее мировое потребление нефти возросло с 45 млн. тонн до 3 млрд. тонн. И если при первобытном строе для поддержания жизни человеку необходимо было 3-4 тыс. ккалорий в сутки, то сейчас эта потребность в энергии существенно возросла, и в развитых странах она составляет 200 тыс. ккалорий на одного человека.

**— Значит ли это, что одним из основных путей выхода из энергетического кризиса является увеличение добычи и поставки нефти и газа в республику?**

— И да, и нет. Хорошо иметь все и много, но тогда это «многое» может потерять в некоторой степени ценность. За примером далеко ходить не надо: в бывшем СССР добывалось огромное количество различных видов топлива, которое использовалось не всегда экономно, да к тому же раздавалось нередко за бесценок другим «дружественным» государствам. И когда в 70-х годах из-за резкого подъема цен на энергоносители большинство развитых стран уделили большое внимание совершенствованию, разработке и внедрению энергосберегающих технологий, оборудования, использованию различных нетрадиционных и возобновляемых источников энергии, СССР продолжал идти по пути увеличения добычи нефти и газа. Так, уже в семидесятые годы объем добычи нефти достиг в СССР 500 млн. тонн в год, а природного газа — 320 млрд. м³. При этом среднегодовой прирост добычи нефти составлял 28,6 млн. тонн, газа — 24 млрд. м³. Это огромные объемы. Но природные запасы не бесконечны и невосстанавливаемы. Сегодня за одни сутки человечество потребляет такое количество топлива, которое природа синтезирует за тысячу лет.

Независимо от прогнозируемых оценок сторонников традиционных видов топлив при таком большом объеме их потребления идет постоянное истощение запасов природных топлив, в частности, нефти — одного из главных энергоносителей. Интересно отметить, что хотя в общих запасах природного топлива нефть составляет около 10%, а уголь — 70%, общая потребность в топливе сегодня удовлетворяется на 70% за счет нефти и лишь 10% за счет угля.

Что касается вопроса объемов добычи и поставки различных топлив, то резкое их снижение может обернуться невосполнимыми потерями для Беларуси, да и для любого государства. Я полностью согласен с мнением министра энергетики РБ В. В. Герасимова, которое он высказал в своей статье «При экономическом союзе в наших квартирах будет тепло и светло» (газета «Республика» от 19.08.93 г.): в СССР был создан «единый топливно-энергетический комплекс, и этот комплекс на протяжении всей советской истории обеспечивал надежное и бесперебойное снабжение электро- и теплоэнергией многомиллионное население и многосложное народное хозяйство. Распад СССР больно ударил по отрасли». По сути дела топливно-энергетический комплекс расчленили, обескровив полностью или частично отдельные части и составляющие элементы. И не случайно наше правительство видит выход только в экономическом союзе с Россией, Украиной и другими, ставшими теперь суверенными государствами. Но сегодня речь должна идти не о продолжении функционирования затратно-расточительного механизма хозяйствования, а об экономном и эффективном использовании энергии.

**— В чем же состоит неэффективность использования топливно-энергетических ресурсов в нашей республике?**

— Ответ на этот вопрос непростой. Возможно, он будет более понятен через сопоставление нескольких цифровых данных. Дело в том, что значительную часть стоимости продукции в нынешних условиях составляют затраты на топливо и энергию: меньше эти затраты — ниже себестоимость продукции. Так вот, к началу 90-х годов экономика советского типа (включая промышленные и сельскохозяйственные предприятия Беларуси) потребляла в 2,5-3 раза больше энергии на единицу продукции, чем, скажем, экономика США и Западной Европы. А ведь к этому времени наша республика имела развитую и энергоемкую промышленность и сельское хозяйство. Достаточно сказать, что только в период с 1966 по 1980 гг. объем производства валовой продукции в республике вырос в 15 раз, а химическая промышленность Беларуси вышла на третье место в СССР. Республика выпускала более половины калийных и примерно 20% минеральных удобрений к общему объему выпускаемых в стране. К этому следует добавить производство тракторов, большегрузных автомобилей, сельскохозяйственных машин, холодильников и другой продукции. Однако значительная часть этой продукции была ориентирована на внутренний рынок и по своему качеству, расходу металла и энергоемкости не выдерживала конкуренции на внешнем (по отношению к СССР) рынке. А ведь от 50 до 80% всей нашей продукции вывозилось в другие регионы страны. Будь продукция у нас конкурентоспособной, мы могли бы продавать сейчас ее за доллары, покупая нефть и газ за рубли. Для примера, стоимость 1000 нм3 природного газа на сегодня на мировом рынке составляет 82-85 долларов. Беларусь в первой половине 1993 г. покупала у России газ по 16 тыс. рублей или примерно по цене 16 долларов за те же 1000 нм3. Однако мы уже сегодня узнаем о неплатежеспособности республики.

**(Продолжение в следующем номере).**

■ СА СЛОВАМ БОЖЫМ

# ШАНУЙ І ПАВАЖАЙ БАЦЬКУ СВАЙГО І МАЦІ СВАЮ!

Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК, настаяцель Чырвонага касцёла Святых Сымона і Алены.

Чацвёрты Божы Запавет (прыказанне) патрабуе ад нас пашаны і павагі да сваіх бацькоў. «Шануй бацьку свайго і маці сваю» — так загадаў Бог праз свой запавет Маісею.

Бог стварыў нашых першых бацькоў, надзяліў іх розумам, поўнай свабодай і благаславіў іх: «Радзіце і размнажайцеся, і напоўніце зямлю, і зрабіце яе падуладнай сабе, уладарце рыбамі марскімі і птаствам нябесным і ўсялякімі звярамі, которыя рухаюцца па зямлі» (І Маіс. 5, 1-2).

Бацька і маці — аснова сям'і, а сям'я — гэта падмурак грамадства. Бацькі — стваральнікі і кіраўнікі сям'і, яны нясуць адказнасць за выхаванне падрастаючага пакалення — нашай будучыні. Якое вялізнае значэнне і якую ролю адыгрывае сям'я, гаворыць той факт, што папа рымскі Ян Павел ІІ і ЮНЕСКА 1994 год прысвяцілі сям'і. Наступны 1994 год названы ГОДАМ СЯМ'І.

Выхаванне чалавека — складаны, шматгранны працэс. Галоўнае ў гэтым працэсе — выхаванне пачуццяў, духоўнасці і розуму. Бездухоўны чалавек не можа быць дастойным грамадзянінам свайго народа, сваёй дзяржавы. Першыя ўрокі духоўнасці чалавек атрымлівае ў сям'і, ад бацькі свайго і маці сваёй. Духоўнасць ад слова «душа», а душу вызнае толькі вера ў Бога.

Сапраўдную духоўнасць можа выхаваць толькі сям'я веруючых бацькоў. Там, дзе вера, там любоў да бліжняга, а дзе любоў, там згода і спакой.

Бацька і маці ў сям'і павінны быць добрым прыкладам сваімі асабістымі паводзінамі, сваімі добрасумленнымі адносінамі да працы, любоўю да бліжняга, да ўсяго грамадства, да сваёй Радзімы. Нездарма і Радзіму сваю мы называем «Маці».

Бог даў наказ дзецям: «Шануй бацьку свайго і маці сваю». Гэта не пустыя словы. Дзеці павінны паважаць бацькоў, клапаціцца аб іх у старасці, хваробах. Але, на жаль, часта бачым зусім іншае: дзеці зневажаюць сваіх бацькоў, пад старасць не хочуць іх даглядаць, стараюцца ўвесь цяжар клопатаў аб старых перадаць на плечы дзяржавы.

Знявага і здзек над бацькамі — цяжкі грэх. Бог ніколі і нікому не даруе знявагі да бацькоў — гэта трэба памятаць усім нам. Але калі няма веры ў Бога, то няма і страху, няма і граху, няма і клопату і пашаны да бацькоў.

Колькі старых бацькоў і маці пры жывых дзецях дажываюць свой век у дамах для састарэлых! А колькі бацькоў (аб гэтым не толькі казаць, але і падумаць жах) цярпяць пабоі, здзекі, празмерныя вымаганні ад родных дзетак, каторым яны аддалі ўсё сваё жыццё, свае сілы.

Вядома, бываюць і бацькі, каторыя не клапоцяцца пра сваіх дзяцей, не цікавяцца, дзе і што робяць яны вечарамі і начамі. Але так бывае ў тых сем'ях, дзе не ведаюць Бога, дзе не знаюць і не хочуць знаць Божых наказаў.

Ні адна веруючая сям'я не пакіне без догляду сваіх старых альбо хворых бацькоў. Ні адзін веруючы сын, ні адна веруючая дачка не адвязуць сваіх старых у дом інвалідаў.

А што робіцца сёння ў нас?! Усе дамы састарэлых і інвалідаў перапоўнены. А колькіх яшчэ старых чакаюць такія дамы! Колькі старэнькіх маці, бацькоў, бабуль і дзядуль, каторыя аддалі свой апошні, здабыты цяжкай працай рубель дзецям, гадамі, месяцамі выглядаюць сваімі заплаканымі вачыма: ці не паявіцца такая родная, чаканая постаць. Але дарэмна чакаюць, дарэмна ўглядаюцца праз вокны старэчыя вочы. Не памятаюць аб іх сыны і дочкі, не прыбягуць да бабулі ці дзядулі са звонкім смехам іх унукі!

Сыны і дочкі! Вазьміце ў рукі Святое Пісьмо, Святую Біблію, зайдзіце ў касцёл ці царкву, падумайце і апомніцеся: вас таксама чакае старасць. І якую вы падрыхтавалі сваім бацькам, такая чакае і вас. Учытайцеся ў Божыя Запаветы, асабліва ў гэты, чацвёрты «Шануй бацьку свайго і маці сваю». Хто не шануе сваіх бацькоў, той не будзе шанаваць і паважаць свой народ, сваю Радзіму, каторую называем «Бацькаўшчына».

Мы павінны памятаць аб сваіх не толькі жывых, але і памерлых бацьках. Але ж колькі сыноў і дачок як не клапаціліся і не памяталі аб сваіх жывых бацьках, так і не памятаюць аб памерлых — не памоляцца, не пасвенцяць магілку, не запаляць свечку ў Дзень задушы — 2 лістапада. Зарастаюць магілкі і сцежкі да іх. А паўз гэтых пакінутых і забытых магілках часта імчаць міма на шыкоўных легкавушках здаровыя і жыццярадасныя дзеткі.

Праўда, некаторыя дзеці наведваюць сваіх бацькоў ужо пры жалобным памінальным стале, але і там замест Крыжа, запаленай свечкі і малітвы — гарэлка і закусь. А закапаўшы нябожчыка, ізноў на 9 і 30 (40) дзень — выпіўка замест малітвы. І не ўспомняць потым хаця б раз у год памаліцца за самых родных і блізкіх — за сваіх бацькоў не за чаркай гарэлкі, але ў храме, са слязамі звярнуцца да Бога, да Маці Божай аб міласэрнасці і дараванні грахоў сваім родным.

Жывыя! Не забывайце сваіх памерлых бацькоў! Памятайце: яны — ужо дома, а вы яшчэ ў гасцях. Мы яшчэ маем час падумаць і аб сваёй душы, успомніць пра душы нашых бацькоў.

Штодзённа малю Бога і Найсвяцейшую Маці Божую, прашу ласкі Божай для бацькоў, каб яны былі добрым прыкладам для сваіх дзяцей, каб дзеці шанавалі і паважалі сваіх бацькоў, каб выконвалі Божы Запавет: «Шануй бацьку свайго і маці сваю».

Няхай добры Бог благаславіць нашы сем'і, нашых бацькоў, нашых дзяцей, наш народ, нашу Бацькаўшчыну. Амэн.

■ НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## *МАЛДОВЕ СПАДАБАЛІСЯ НАШЫ ПЕСНІ*

З вялікім поспехам выступілі на міжнародным фестывалі фальклору ў Малдове нашы землякі. Гонар прадстаўляць Рэспубліку Беларусь выпала тром калектывам з Асіповіцкага раёна. У адной камандзе аказаліся народны ансамбль беларускай песні «Люлечка» раённага дома народнай творчасці, народны фальклорны ансамбль «Вяселле» з вёскі Каўгары і сямейны ансамбль музыкантаў «Шамакі» з вёскі Дрычын.

У творчым спаборніцтве з калегамі з Францыі, Румыніі, Літвы, Украіны, Расіі і Малдовы беларусы атрымалі трэцяе месца, спецыяльны прыз і дыпломы. Цэлы тыдзень праходзілі канцэрты артыстаў Магілёўшчыны ў гарадах і вёсках дружалюбнай рэспублікі.

## *І ФЕСТЫВАЛІ ВОСЕННЮ ЛІЧАЦЬ*

**Калі пералічыць усе фестывалі, якія паявіліся ў Беларусі толькі ў апошнія гады, іх можа быць больш, чым літар у алфавіце, але менавіта апошняя ў ім дала назву яшчэ аднаму новаму, прычым міжнароднаму тэатральнаму фестывалю. На гэты раз ён будзе прысвечаны выключна монаспектаклям.**

**Як пастанавілі прэзідыум Рады Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, калегія Міністэрства культуры рэспублікі, Мінгарвыканкам, камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і Савет асацыяцыі тэатраў-студый Беларусі, Першы міжнародны фестываль монаспектакляў «Я» пройдзе ў Мінску з 22 па 25 кастрычніка гэтага года. Прагляды будуць арганізаваны ў гэтыя дні ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры, на малой сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры.**

**Арганізатары фестывалю маюць намер такім чынам садзейнічаць развіццю тэатральнага мастацтва, выяўленню яркіх акцёрскіх індывідуальнасцей, пошуку новых сцэнічных форм, папулярызацыі беларускага тэатральнага мастацтва. Чакаецца многа гасцей і ўдзельнікаў з-за мяжы.**

## *ЛЯЛЬКАМ ДОМА НЕ СЯДЗІЦЦА*

Пасля летніх гастроляў і месячнага адпачынку адбыўся збор трупы Брэсцкага абласнога тэатра лялек. Новы сезон калектыў пачынае з гастроляў у Баранавічах, дзе пакажа спектакль «Доктар Айбаліт». У другой палове верасня плануецца выезд у Івана-Франкоўск, а ў лістападзе Брэсцкі тэатр лялек запрошаны ў Германію на міжнародны фестываль.

Сярод бліжэйшых прэм'ер тэатра — спектакль па п'есе Т.Габе «Папялушка», а таксама аднаўляемая пастаноўка І.Сідарука «Меч анёла».

БЕЛІНФАРМ.

■ УРОКИ ИСТОРИИ

# КОГДА НЕТ СПРАВЕДЛИВОСТИ, ПРИЗЫВАЮТ ВОЛАНДА

Сергей НОСОВ, зав. библиотекой Института современных знаний.

20 лет назад, 11 сентября 1973 года в Чили произошел путч. К власти пришла хунта во главе с генералом Аугусто Пиночетом. Он был поддержан чилийской буржуазией, многими политическими партиями, в том числе самой влиятельной — Христианско-Демократической. В Чили, в отличие от других латиноамериканских стран, традиции военных переворотов не было.

В происшедшем увидели символику. Имя Пиночета стало нарицательным.

Демократия, пришедшая к власти на выборах 1970 года — блок «Народное единство» во главе с Сальвадором Альенде, развалила экономику. Когда в кинотеатре гас свет и шел киножурнал с текущей хроникой, при виде президента Альенде половина зала топала и свистела, половина бешено аплодировала. Страна шла к гражданской войне. Поднимал голову экстремизм. «Леваки» начинали постреливать. Ширилось забастовочное движение, которое парализовывало экономику.

Такие личности, как Луис Корвалан, «Луче», глава компартии Чили, впоследствии агент КГБ, были далеко не безопасны. Юнцы в майках с портретами Че Гевары, жаждавшие повторить Фиделя, нетерпеливо похлопывали приклады автоматов Калашникова.

Переворот, надо признать, был проведен так, что предотвратил и гражданскую войну, и то кровопролитие, которое могло быть при самом путче. Рабочим отрядам не дали собраться, организоваться и двинуться к центру Сантьяго-де-Чили. Магистрали были перерезаны, отсутствовала возможность образования толп и их движения. Шли бои с защитниками президентского Дворца Ля-Монеда.

Охрана, сторонники президента, дрались отчаянно — такова особенность гражданских войн — особое ожесточение, ненависть. Армия не могла взять дворец. Тогда Пиночет применил авиацию.

Альенде был предложен самолет и возможность вылететь в любую страну мира. Президент заявил, что остается на своем посту в своей резиденции. Он был тоже человеком идеи и принципов, за которые проголосовали в 1970 году чилийцы. Врач по профессии Сальвадор Альенде взял в руки базуку.

В газетах, в том числе в советской «За рубежом», была напечатана его фотография в окружении защитников дворца с автоматами.

То, что Альенде был убит — инсинуация. Это не входило в планы хунты. Он покончил с собой в состоянии нервного шока. Одетый во все регалии труп президента его сторонники посадили в кабинет за стол.

Стадионы были переоборудованы в концлагеря. Там уничтожили 2 тысячи человек. Спецслужбой Пиночета в Нью-Йорке был убит министр иностранных дел правительства Альенде Орландо Летельер.

В экономике Чили начался подъем, ее захватил строительный бум. Экономисты чикагской школы профессора Харека создали благоприятные условия для иностранных инвестиций, роста производства.

А возьми власть Корнилов и корниловцы в августе 1917-го?

Но для развития рыночной экономики необходима политическая демократия. И к власти в Чили пришло гражданское правительство. Пиночет сохранил за собой пост главнокомандующего вооруженными силами и пожизненное кресло сенатора в чилийском парламенте.

В настоящее время Чили находится на первом месте среди стран Латинской Америки по уровню жизни. Куба — на последнем после Гаити, «завалив» даже производство сахарного тростника.

Дело не в личности Аугусто Пиночета. Диктатура приходит тогда, когда созданы условия. Вследствие чего получает поддержку значительной части общества. Этакая легитимность и харизматичность. Когда справедливости нет, призывают Воланда.

Вспоминается еще один «юбилей». 60 лет назад, в августе 1933-го, на выборах в рейхстаг победил Гитлер. Немцы проголосовали за социализм. Национал-социалистическая рабочая партия немного опередила коммунистов.

Когда кайзеровская империя потерпела крах, у Германии отобрали колонии, обобрали территориально. Ей запрещено было иметь авиацию. Английский и американский империализм унижали Германию, национальное достоинство немцев. Вводили войска в Саарский угольный бассейн, топливное сердце страны.

В период Веймарской демократии как снежный ком росли безработица и инфляция. Когда за доллар стали давать 5 тысяч марок, пришел фюрер.

Тоталитаризм подкупает мнимым быстрым решением проблем. В короткий срок были ликвидированы спекуляция и преступность.

Народ попался на шовинистические посулы, а шовинизму всегда нужен внешний враг. Этим он отличается от патриотизма, который призывает не к топору, а к метле.

Вспомним в связи с наступившими юбилеями, что анархия, экономический развал приводят к «сильной руке», и куда ведет эта рука с ежовой рукавицей, показывает история.

■ ЯК ВЫЛЕЧЫЦЬ ХВОРУЮ БЕЛАРУСЬ

# ПЕРШЫ СЕЗОН АБНОЎЛЕНАЙ «ВІТЫ»

Станіслаў СІМАНЬКОЎ, старшыня клуба аматараў бегу «Віта».

Сёлета выканкамам Фрунзенскага раённага Савета народных дэпутатаў г.Мінска быў зарэгістраваны КАБ «Віта», які аб'ядноўвае аматараў бегу, лыж, трыятлону, і проста людзей, якія вядуць здаровы лад жыцця. Здзейснілася як бы другое нараджэнне спартыўна-фізкультурнага клуба, што існаваў раней пры ДБК-3 і аб'ядноўваў аматараў бегу домабудаўнікоў. «Стары» клуб пакінуў нядрэнную пра сябе памяць. Хто, напрыклад, забудзецца пра серыю мінскіх марафонаў, якія праводзіліся тут пры непасрэдным кіраўніцтве П.Шэстака, В.Дылейкі ды іншых актывістаў «Віты»? Аднак у апошнія гады з нагоды эканамічнай неразбярыхі, недастатковага фінансавання і па іншых знаёмых усім прычынах дзейнасць клуба была амаль спынена.

І вось у гэтым годзе П.Шэстакам, аўтарам гэтых радкоў, ды іншымі аматарамі бегу Фрунзенскага раёна сталіцы створана ініцыятыўная група па «рэанімацыі» КАБ. Узяўшы за аснову клуб аматараў бегу пры ДБК-3, мы вырашылі ўдыхнуць у яго новае жыццё і вывесці яго дзейнасць за сцены домабудаўнічага камбіната.

Чаму на гэта пайшлі? А таму, што ў Фрунзенскім раёне ёсць многа «неарганізаваных» людзей, якія трэніруюцца самі па сабе. Часам, праўда, нейкая частка з іх сустракаецца са сваімі «калегамі» на клубных днях у КАБ «Мэта-42», што месціцца ў раёне парку Чалюскінцаў. Але надта ўжо далёка туды дабірацца з нашага раёна і назад, трэба губляць многа часу, якога нам і так не хапае. А ўмовы ж арганізацыі аналагічных клубных дзён у нашым раёне ніколькі не горшыя.

Наша пачынанне знайшло падтрымку ў раённым спорткамітэце і выканкаме, які знізіў нам ажно на 75 працэнтаў узнос за рэгістрацыю статута клуба. Домабудаўнікі прадаставілі памяшканне, дзе можна сабрацца, пераапрануцца, а пасля дыстанцыі памыцца, пачаяваць, падзяліцца навінамі.

Дзякуючы гэтай дапамозе, ужо сёлетняй вясной было праведзена некалькі клубных дзён (прыкладна два разы на месяц, у вольныя дні). Кожны бягун, да слова, на трэніроўках выбіраў «сваю» дыстанцыю. Хтосьці бегаў па дарожцы стадыёна «Будаўнік», хтосьці ў лясным масіве, які знаходзіцца паблізу, хтосьці па кіламетровай «сцежцы здароўя», пракладзенай у парку ля фізкультурна-аздараўленчага цэнтра «Даўгалецце».

А 26 красавіка, яшчэ да сваёй афіцыйнай рэгістрацыі, КАБ «Віта» пры падтрымцы раённага спорткамітэта на чале з яго кіраўніком Н.Мельнікавым, ды рэдакцыі раённай газеты «Вяснянка» і яе галоўнага рэдактара В.Тодарава заявіў аб сабе раённым вясновым прабегам на дыстанцыі 9,3 і 6,2 км у памяць аб гадавіне чарнобыльскай катастрофы. Гэты прабег мы вырашылі зрабіць традыцыйным і ўнесці яго на наступны год у раённы і гарадскі каляндар спаборніцтваў і прабегаў.

...Спачатку непасрэдна перад спартыўным саперніцтвам быў праведзены папярэдні агітацыйны антычарнобыльскі прабег, арганізаваны КАБ «Мэта-42» і падтрыманы нашым клубам. Два клубы асвойвалі новую для сябе трасу, кіруючы ад Мінскага завода халадзільнікаў па праспекце Машэрава, іншых вуліцах Фрунзенскага раёна да скрыжавання вуліц Прытыцкага і Глебкі, дзе месціцца армейская палатка, абнесеная сеткамі. Побач з ёй — гранітны абеліск з надпісам: «Основана Церковь сия в честь иконы Божией Матери «Всех скорбящих Радости» в память пострадавших и страждующих от бедствия чернобыльского».

Мінутай маўчання ўдзельнікі прабегу і прыхаджане, якія тут прысутнічалі, ушанавалі памяць ахвяраў Чарнобыля. З бегунамі сустрэўся і благаславіў іх святар Ігар Карасцялёў. Потым удзельнікі агітацыйнага прабегу ўзялі кірунак да ФАЦ «Даўгалецце». Тут у 11.00 быў дадзены старт ужо спартыўнаму прабегу на прызы раённай газеты «Вяснянка»...

Сёлета ў нас былі і другія трасы. Але наперадзе шмат працы. Плануем, напрыклад, адрадзіць Мінскі марафон. Усё ж кожны прыстойны горад мае сваю марафонскую дыстанцыю. А ў нашай сталіцы, акрамя 58-кіламетровага «Мінскага кальца», ніякай іншай марафонскай трасы няма. Калі класічныя марафоны і праводзяць, дык у Асіповічах, Бабруйску, Віцебску, Пінску, Брэсце, толькі не ў сталіцы. Мяркую, для гэтай справы і спонсары знайшліся б...

Прачытаўшы пра наш клуб «Віта», я думаю, што і другія кіраўнікі мінскіх клубаў аматараў бегу падзеляцца на старонках газеты сваімі праблемамі і радасцямі. Я, напрыклад, задаволены, што на базе былога гарадскога клуба аматараў бегу «Мінск» узніклі, аддзяліўшыся ад яго, свае раённыя клубы. Значыцца, рух наш шырыцца. А гэта самае галоўнае.

**НА ЗДЫМКАХ: «Віта» на трэніроўцы; члены клубаў «Віта» і «Мэта-42» пасля антычарнобыльскага прабегу.**

**Фота аўтара.**

■ ПЫТАННЕ З КАНВЕРТА

# ТРЫ ГАЛІНЫ АДНАГО ДРЭВА

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

*«Чула, што на кінастудыі «Беларусьфільм» здымаецца фільм пра гісторыка, даследчыка Міколу Ермаловіча. Не маглі б падказаць, будзе гэта дакументальная, мастацкая стужка, і хто рэжысёр?»*

*Алёна Мініч, хатняя гаспадыня.*

Паважаная Алёна, звесткі, якія дайшлі да вас, крыху недакладныя і запозненыя. «Браты Ермаловічы» — так называецца дакументальны фільм рэжысёра Валерыя Кавалёва. Здымкі карціны ўжо закончаны, спадзяюся, хутка вы зможаце ўбачыць яе на экранах кінатэатраў. Па запрашэнню знаёмага рэжысёра мне пашчасціла пабываць на праглядзе фільма. Спадзяюся, будзе цікава пачуць меркаванне аб гэтым творы дакументальнага мастацтва.

Пра братоў Ермаловічаў — Міколу, Валянціна і Леаніда Іванавічаў — апошнім часам пішацца нямала. Здавалася, сказаць штосьці новае, адметнае пра іх практычна немагчыма. Але, на маю думку, Валерыю Кавалёву гэта ўдалося. У чым сакрэт? На мой погляд, у падыходзе аўтара да раскрыцця тэмы, ідэі фільма. Праз лёс кожнага з герояў Валерый Паўлавіч паказаў, што адзін без аднаго яны, як тры галіны аднаго дрэва, якія выйшлі з агульнага ствала, ускормлены яго сокам, ссячэш адну — засохнуць астатнія. Браты дапаўняюць адзін аднаго сваім непадабенствам і разам з тым ствараюць гармонію, адно цэлае, непадзельнае.

Сваім фільмам рэжысёр, думаецца, пераканаў гледача ў тым, што братам Ермаловічам не трэба перабудоўвацца, адраджацца. Яны жылі і жывуць па законах беларушчыны. Гэта для іх настолькі натуральна, як, скажам, дыхаць.

Нямнога знойдзецца на Беларусі такіх самабытных нацыянальных астраўкоў, на якія не паўплывалі ні русіфікацыя, ні паланізацыя, ні сталінска-брэжнеўскія віхуры. Пры любых рэжымах, уладах Мікола, Валянцін і Леанід былі аддадзены Беларусі, размаўлялі на роднай мове, за што іх аблівалі брудам, давалі кухталёў у «высокіх» кабінетах.

Лепшыя гады Мікалай Іванавіч правёў у бібліятэках, пыльных архівах у працы над гісторыяй рэспублікі. Страчаны зрок, здароўе, памерла верная спадарожніца, якая дзяліла нягоды, — жонка. І толькі на схіле жыцця прыйшло прызнанне. Ці не занадта вялікая цана?

У канцы фільма камера выхоплівае з натоўпу юнака, які трымае часопіс з нарысамі Ермаловіча, у скверы на лаўцы дзяўчына чытае «Старажытную Беларусь». Сумненні развеяны. Як не магло іх быць і ў справе, якую робіць Валянцін Іванавіч. Ён стаяў ля вытокаў Краснапольскага народнага тэатра — лепшага ў рэспубліцы. Кожны дзень ездзіў з Магілёва за 120 кіламетраў у гэты невялікі гарадок на рэпетыцыі. Аднойчы, каб не спазніцца, вымушаны быў узяць таксі — нават думкі не мог дапусціць, што рэпетыцыя сарвецца. Знайшліся людзі, якія пазайздросцілі адданасці галоўнага рэжысёра свайму дзецішчу, пачалі аспрэчваць яго ўклад у развіццё тэатра. Горка, балюча было чуць такое, і Валянцін Іванавіч пераязджае ў Бялынічы. Але ў Краснаполлі яго помняць, любяць.

Колькі чалавек ён выцягнуў з багны п'янства, захапіўшы тэатрам. І ўсё гэта неўпрыкмет, ненавязліва, без лішняй агітацыйнай мітусні.

Леанід Іванавіч — у мінулым вясковы настаўнік, цяпер пенсіянер. У жыцці нічога адметнага не зрабіў, жыў па чалавечых законах, выхоўваў дзетак. Але, на мой погляд, яму больш за іншых сімпатызуе рэжысёр: за яго вясковую разважлівасць, гаспадарлівасць, залатыя рукі. Менавіта ён з'яўляецца тым стрыжнем, ля якога групуюцца браты, а сціплае жытло яго — падмуркам, які цэментуе іх у адно цэлае, збірае за адным сталом.

Што ж, дзякуй Паўлу Кавалёву за прыемныя хвіліны, якія ён падараваў сваім фільмам. За апошнія гады на кінастудыі «Беларусьфільм» гэта, бадай, адзіная стужка, якую з поўным правам можна назваць беларускай: па ідэі, каларыту, характару і мове.

